# Манэтавы скарб з пляцу Волі ў Менску

За сваю шматпакутную, блізу 200-гадовую гісторыю комплекс будынкаў на пляцы Волі пад сучаснай нумарацыяй 19/21 шмат пабачыў, шмат перажыў, перацярпеў. Гэтыя шэрыя, часам зусім непрыглядныя помнікі грамадзянскай архітэктуры часта мянялі свой выгляд, гаспадароў. Так адбылося і з гэтымі 2- і 3-павярховымі мураванымі дамкамі, якія будаваліся на ўжо сфармаванай пляцоўцы ў самым цэнтры Верхняга рынку замест існаваўшых тут раней драўляных. І адбудоўваліся яны не адразу, а на працягу паўсотні, а то і болей гадоў. Зараз існуе два будынкі, а раней, верагодна, было тры, а таксама два ці нават болей дворыкаў, якія мелі замкнёную структуру. Дворык, які захаваўся да нашых часоў, захапляе сваёй утульнасьцю, нестандартнасьцю, негледзячы на тое, што яго ператварылі ў вялікі сьметнік. Зь яго адкрываецца добры выгляд на вежы былога касьцёла бэрнардынаў, якія ў сонечнае надвор'е нібы плывуць разам з невялічкімі хмаркамі па небе неяк асобна ад касьцёлу. З боку былой Касмадзем'янкаўскай вуліцы (зараз не існуе) будынак ахоплены галерэяй, на якой раней, відаць, ішоў ажыўлены гандаль разнастайнымі таварамі, рамантаваліся і вырабляліся розныя рэчы хатняга ўжытку. Тая частка комплексу, што выходзіла на пляц Волі, была пашкоджана пад апошняй вайны і разабрана посьля яе. Таму і фасад тут зусім незразумелы, нейкі шэры, нязграбны.

Не пашанцавала гэтаму цікаваму комплексу і ў апошнія гады. Другая лінія мэтро прайшла якраз пад ім, і ён пачаў на вачах пакрывацца павуціннем шчылін і ледзь не развалі́ўся. Але мэтрабуд, замятаючы сьляды сваіх злачынстваў, заліў ледзь ня ўсе сутарэньні бэтонам, атынкоўвае шчыліны і ўжо на працягу чатырох год спрабуе фарбаваць яго ў розныя колеры.

У 1989 г. пачаліся комплексныя навуковыя дасьледваньні помнікаў, якія складаюцца з вывучэньня помнікаў у гістарычным, архэалягічным і архітэктурным плане. Іх праводзіў Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут. На вялікі жаль, архэалягічныя досьледы па розным прычынам не былі скончаны. Было закладзена і выканана сем шурфоў. Мэтай шурфоўкі было вывучэньне стану падмуркаў будынкаў, іх складанай гісторыі, а таксама культурнага (архэалягічнага) пласта. Знойдзеныя ў шурфах рэчы і фрагмэнты разнастайных шкляных, керамічных, фаянсавых, кафляных вырабаў датуюцца к. XYI–XX ст. ст. Падобныя знаходкі часта сустракаюцца пры раскопках Менска і іншых беларускіх гарадоў і мястэчак.

З найбольш старажытных варта згадаць донца шкляніцы з налепным валікам, якое можна аднесьці да першай паловы XYII ст. Шмат было ў шурфах рознага аптэкарскага і парфумэрнага начыньня канца XYIII – пачатку XX ст. ст. Зараз гэты посуд перададзены ў Музэй гісторыі мэдыцыны Беларусі, што ствараецца ў Менску. Найбольшая колькасьць рэчаў была знойдзена ў шурфе №2, які быў разьбіты каля паўднёвай сьцяны, зьлева ад уваходу ў двор. Але самая цікавая знаходка – гэта скарб манэтаў другой паловы XIX – пачатку XX ст., знойдзены ў гэтым шурфе на глыбіні 60–160 см ад дзённай паверхні, у амаль квадратнай драўлянай канструкцыі. Яна была складзена з дошак, якія мацаваліся ўнутры слупкамі, што стаялі па кутах. Канструкцыя мела памеры 140–120–60 см і была запоўнена разнастайным сьмецьцем XIX–XX ст. ст. Драўляная канструкцыя разьмяшчалася адразу пры ўваходзе ў двор, на адлегласьці 80 см ад паўднёвай сьцяны. Паміж імі была адмостка з камянёў памерамі 10–25 см.

Скарб налічваў звыш трох сотняў манэтаў вельмі дрэннай захаванасьці. Увогуле, знаходка скарба, які б ён ні быў, заўсёды назвычайнае здарэньне.

Вынікі папярэдняга агляду знаходкі былі надрукаваны ў газэце „Добры вечар" (26.11.1991). Вашай увазе прапануюцца больш поўныя і падрабязныя зьвесткі аб яго складзе:

РАСЕЙСКАЯ ІМПЭРЫЯ

| Намінал | Год | | Колькасць асобнікаў |
|---|---|---|---|
| 3 капейкі | 1914 | | 1 |
| -"- | 1xxx | | 1 |
| 5 капеек | 1867 | | 2 |
| -"- | 1868 | | 3 |
| -"- | 1877 | СПБ | 10 |
| -"- | 1878 | СПБ | 9 |
| -"- | 1869 | | 4 |
| -"- | 1869 | ЕМ | 1 |
| -"- | 1867–69 | ЕМ | 1 |
| -"- | 1870 | | 9 |
| -"- | 1870 | ЕМ | 4 |
| -"- | 1871 | ЕМ | 6 |
| -"- | 1872 | ЕМ | 5 |
| -"- | 1873 | ЕМ | 2 |
| -"- | 1874 | ЕМ | 4 |
| -"- | 1875 | ЕМ | 10 |
| -"- | 1876 | ЕМ | 1 |
| -"- | 1876 | СПБ | 1 |
| -"- | 1876 | | 7 |
| -"- | 1867–76 | ЕМ | 8 |
| -"- | 1870–76 ЕМ | | 3 |
| -"- | 1879 | СПБ | 7 |
| -"- | 18/6 ці 7/9 | | 2 |
| -"- | 1870–79 | | 4 |
| -"- | 18/7 ці 8/0 | | 2 |
| -"- | 1880 | СПБ | 15 |
| -"- | 1881 | СПБ | 13 |
| -"- | 1880–81 | СПБ | 6 |
| -"- | 1867–81 | | 10 |
| -"- | 1911 | СПБ | 23 |
| -"- | 1912 | СПБ | 2 |
| -"- | 1911–12 | СПБ | 1 |
| -"- | 1867–1912 | СПБ | 1 |
| -"- | 1867–1916 | | 105 |
| -"- | 1916 (?) | | 1 |

СССР

1 капейка: 1936, 1938, 19xx (2 асобнікі);

2 капейкі: 1930, 1935, 1940, 194x, 1952, 19xx (6 асобнікаў);

3 капейкі: 1939 (2 асобніка), 194x, 19xx (3 асобнікі);

5 капейкі: 1923, 1933, 1931–33, 1938 (2 асобнікі), 1936–57;

5 капейкі: 193x, 1940, 1949, 19xx;

10 капеек: 1923, 1933, 1931–33, 1938 (2 асобнікі), 1936–57;

2 ці 10: 1923, 1933, 1931–33, 1938 (2 асобнікі);

15 капеек: 1931–33 (3 асобнікі), 1935, 1939, 1945, 1948, 1936–57;

20 капеек: 1933, 1935 (2 асобнікі), 1936, 1943, 1945, 1948 (2 асобнікі).

НЯМЕЧЧЫНА

5 пфэнігаў 1940–1944;

10 пфэнігаў 1940–1945;

50 пфэнігаў 1923–1936.

Там жа быў знойдзены нямецкі крыж „За вайсковыя заслугі", які ўяўляе сабой мальтыйскі крыж з двума дыяганальна перакрыжаванымі мячамі і са свастыкай у вянку ў цэнтры.

Такім чынам, усяго было знойдзена 339 манэтаў: зь іх 285 медных Расейскай Імпэрыі, 51 – савецкая, 3 – гэрманскія. На двух медных расійскіх пяцікапеечных манэтах папярэднія ўладальнікі па краю манэтнага поля зрабілі насечкі (магчыма, напільнікам). Цікава, што сярод медных манэтаў Расейскай Імпэрыі толькі дзьве былі трохкапеечныя. Калекцыянераў, пэўна, зацікавіць параўнаньне раскладу гэтых манэтаў па гадах (адлюстроўвае склад грашовага абароту сярэдзіны другога дзесяцігоддзя XIX ст.) з агульнай колькасьцю пятакоў, адбітых у гэтыя гады на манэтных дварах Екацярынбурга і Санк-Пецярбурга (дадзеныя ў тысячах паводле: STANDARD CATALOG OF WORLD COINS. -- 10TH ED. BY CH. L. KRAUSE & C. MISHLER. -- IOLA. WISCONSIN. 1984. - P. 1728):

| ГАДЫ | | 1867 | 1868 | 1869 | 1870 | 1871 | 1872 | 1873 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| М.ДВОР | ЕМ | 1459 | 23019 | 20277 | 21158 | 6304 | 11890 | 13052 |
| | СПБ | 44[1] | 821 | 942 | 28 | | | |
| ГАДЫ | | 1874 | 1875 | 1876 | 1877 | 1878 | 1879 | 1880 |
| М.ДВОР | ЕМ | 12879 | 19624 | 5329 | | | | |
| | СПБ | | | 4655 | 7184 | 12542 | 14652 | 6773 |
| ГАДЫ | | 1881 | 1911 | 1912 | 1916[2] | 1917[2] | | |
| М.ДВОР | ЕМ | | | | | | | |
| | СПБ | 13824 | 3800 | 2700 | 8000 | | | |

1. У 1867 г. на Санкт-Пецярбургскім манэтным двары было выраблена вельмі мала пяцікапеечных манэтаў: усяго вядома 44 асобнікі.

2. У 1916–17 г. г. манэты адбіваліся без адзнакі СПБ.

Нягледзячы на дрэнную захаванасьць манэтаў, пры іх вывучэньні высьветлілася, што ў скарбе храналягічна прадстаўлены манэты амаль што ўсіх гадоў выбіваньня гэтага тыпу ( за выключэньнем 1917 г., калі іх вытворчасьць была нязначнай). Што да манэтных двароў, то тут трэба адзначыць, што вылучыць манэты Санкт-Пецярбургскага манэтнага двара 1867–71 г. г. у комплексе не ўдалося. Сярод пяцікапеечных манэтаў больш за ўсё асобнікаў 1911 г. (23), 1880 г. (15), 1881 г. (13), 1870 г. (13).

Наяўнасьць у скарбе значнай колькасьці медных пяцікапеечных манэтаў (83%) сьведчыць аб наўмысным зьняцьці іх з абарачэньня. Разам з тым вылучаныя тры групы манэтаў (Расейскай Імпэрыі, СССР і Германіі) даюць магчымасьць казаць аб двух верагодных этапах складаньня ўсяго комплексу: 1) асноўная частка яго – медныя расейскія манэты – была зьнята з абарачэньня ў гады Першай сусьветнай вайны; 2) астатнія манэты склалі комплекс на пачатку 1950-х гадоў.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо ня першая знаходка расейскіх медных манэтаў у Менску. Напрыклад, толькі ў апошні час сталі вядомы скарбы: у раёне чыгуначнай станцыі „Таварная" (знойдзены ў 1975 г.), побач з вуліцай Нямігай (1980 г.), каля пл. Волі (1986 г.), на Траецкім прадмесьці (1987 г.). Аднак ні ў адным не было такой колькасьці пяцікапеечных манэтаў. Усе гэтыя цікавыя знаходкі яскрава сьведчаць аб складаным становішчы ў фінансах Расеі ў часы першай сусьветнай вайны.

На першага студзеня 1914 г. грашовая маса ў абарачэньні складалася з крэдытных білетаў на суму 1665 млн. руб. (65,2 % грашовай масы), залатых манэтаў – 494 млн. руб. (0,7 %), білетаў дзяржаўнае скарбніцы – 150 млн. руб. (6%).

Вайна дэзарганізавала грашовае абарачэньне. У першы тыдзень царскі ўрад скончыў абмен крэдытных білетаў на золата, а потым неаднаразова павялічваў эмісійнае права Дзяржбанка. Апошні фактычна атрымаў магчымасьць амаль што неабмежаванай эмісіі банкнотаў. Так, з пачатку вайны да сакавіка 1917 г. было выпушчана крэдытных білетаў на 8317 млн. руб., а Часовы ўрад зь першага сакавіка па першага кастрычніка гэтага году – на 7340 млн. руб. Калі да вайны золата, якое захоўвалася ў Дзяржбанку, амаль цалкам забясьпечвала крэдытныя білеты (Расея мела золата на 1600 млн. руб. 1 за мяжой – на 150 млн. руб., а білетаў на 1633 млн. руб.), то на першага кастрычніка 1917 г. сытуацыя зьмянілася: у Расеі захоўвалася золата на 1294 млн. руб. пры 17275 млн. руб. білетаў у абарачэньні.

Гэта прывяло да падзеньня кошту папяровых банкнотаў. Калі на пачатку 1917 г. пакупніцкая магчымасьць рубля не перавышала 45 капеек, то ў кастрычніку яна была ня больш 6–7 капеек. Насельніцтва больш не давярала рублю, і ў яго, напрыклад, напярэдадні 1916 г. асела банкаўскага срэбра на 114 млн. руб., разьменнага – на 172 млн. руб. і меднай манэты на 23 млн. рублёў.

Калі яшчэ ўлічваць, што ў абарачэньні было шмат розных сурагатных грошай, то гэта яскрава сьведчыла аб фінансавым краху.

Вось такія абставіны прывялі да захоўваньня скарбаў у той час. Такім чынам, нават знаходкі скарбаў манэтаў XIX–XX ст. – даволі цікавая зьява, якая служыць добрай крыніцай па гісторыі свайго часу, яскравым сьведчаньнем працэсаў, што адбываліся ў эканоміцы Расеі.

Зьмешчаны матэрыял ня толькі дае ўяўленьне аб стане эканомікі Расеі пачатку XX ст., але дае магчымасьць чытачам паразважаць, правесьці паралелі і аналёгіі зь сёньняшнім днём.

Археолягі:
Уладзімір МІЛЮЦІН,
Зьміцер ЯЦКЕВІЧ.

## Крыж Булак-Балаховіча



*Кожная незалежная дзяржава мае свае ўзнагароды, якімі адзначае сваіх лепшых сыноў. Паўстае пытанне пра ўласныя ўзнагароды і перад нашай рэспублікай. Але перад тым, як сесці за распрацоўку новых узнагарод, трэба будзе зазіраць у нашу гісторыю, пашукаць там выявы нашых ордэнаў і медалёў.*

*Сёньня хацелася б пазнаёміць нашых чытачоў з „Крыжам Храбрых" генерала Булак–Балаховіча, які ўнёс свой уклад у незалежнасьць Беларусі.*

*Крыж белага металу, пакрыты белай эмальлю, памерам 35 на 35 мм. У цэнтры крыжа срэбны мэдальён, на якім выява мёртвай галавы над скрыжаваньнем мяча і паходні. Мэдальён акружаны лаўровым вянком, перавязаным у нізе стужкай.*

*Адваротны бок гладкі і мае парадкавы нумар.*

*Выказваю падзяку спадару Алесю Кузняцову за магчымасць азнакамленьня з узнагародай Булак-Балаховіча.*

*А. СЯРОЖКІН,*
*Ворша.*

